16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

7 • 2017
ліпень

Тут нам рабіць няма чаго!

Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Прыгоды моды

Бачыў, які ў яе круты смартфон?!














Пётр КОЗІЧ х 3.

Алег ГУЦОЛ х 3.

# Думкі ўголас

Самыя важныя ў жыцці рэчы не ўзважваюцца.

З тым, што нялёгка даецца, цяжка расставацца.

Калі думка патанае ў словах, выратавання ёй не дачакацца.

Там, дзе падкладаюць свінню, смажаным парасём не пахне.

Хто думае, той існуе, хто добра думае — выдатна жыве.

Беднасць — не загана, загана — нежаданне ад яе пазбавіцца.

Каму казачна шчасціць, таму не патрэбна залатая рыбка.

Ядуць поедам таго, хто прыйшоўся не па гусце.

Экзамены могуць быць на носе, але веды — толькі ў галаве.

Калі цябе хваліць дурань, гэта яшчэ не значыць, што ты вельмі разумны.

Ісціна нараджаецца ў спрэчцы, але здараюцца і выкідышы.

Той, хто рубіць сук, на якім сядзіць, можа без патрэбы спілаваць і дрэва.

Для некага напіцца да чорцікаў — святая справа.






Алег ПАПОЎ х 2.

Чаму становяцца на вушы, калі лепей стаяць на нагах?

Дурням заўсёды шчасціць, але толькі ў казках.

Іншаму палачка-выручалачка патрэбна ў выглядзе дубінкі.

Калі жонка з цікавасцю паглядае на адзенне іншых жанчын, давядзецца лішні раз зазірнуць у кашалёк.

Як клопатаў поўны рот, дык есці не хочацца.

Са спажывецкім кошыкам у лес не пойдзеш.

Закопваць грошы ў зямлю можна толькі тады, калі яна прыносіць добры ўраджай.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




## З жыцця таксістаў

*Міні-фельетон*

Раней працавалі фурманы, што перавозілі людзей у карэтах і павозках. Сёння ж для такіх спраў ёсць таксі – камфартабельныя «жалезныя коні», гатовыя максімальна хутка і бяспечна даставіць пасажыра да месца назначэння. Пры гэтым дастаткова часта таксісты выконваюць ролю экскурсаводаў. Скажам, трапляецца ім кліент, які дрэнна ведае мясцовасць або наогул не знаёмы з тэрыторыяй горада. І вадзіцель пачынае вазіць пасажыра па колу. Хай глядзіць у акенца ды любуецца краявідамі. Праўда, сума за паездку будзе значная, але ж уражанні застануцца на доўгія гады!

Канешне, не ўсё так хораша ў жыцці таксістаў. Здараюцца і небяспечныя выпадкі...

Напрыклад, вадзіцелю Аляксандру Віктаравічу з Гомеля шанцавала на вялікую колькасць кліентаў і, адпаведна, добры прыбытак. Усе атрыманыя грашовыя сродкі таксісту даводзілася вазіць з сабой да канца працоўнага дня. Наяўнасць выручкі ў салоне аўтамабіля заўсёды прымушала Аляксандра Віктаравіча з асцярогай адносіцца да кожнага пасажыра. Неяк да яго ў аўто падсеў мужчына, дастаў пісталет, пачаў пагражаць і патрабаваць грошы. Таксіст напалохаўся і аддаў усё.

А бывае, і сам таксіст становіцца зламыснікам. Так, у пачатку чэрвеня ў Брэсце вадзіцель выкраў у нецвярозага пасажыра грошы. Той нязграбна залазіў у аўтамабіль і нават не заўважыў, як у яго з рук выпаў кашалёк. Таксіст аказаўся паслужлівым: імгненна кінуўся дапамагаць небараку. Ну, і заадно падняў і паклаў сабе ў кішэнь кашалёк з сумай 290 рублёў. Пэўна, у якасці платы за дапамогу. Або як чаявыя.

Вось такое жыццё ў таксістаў. Тут і небяспека, і крымінал, і прыгажосць, і нервовасць. Ніколі не засумуеш!

**Алеся НІКІФАРАВА,**
*г. Віцебск.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Павел ГАРАДЦОЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.

**Міхась СЛІВА**

# Цвік, які вылез

*Іранеска*

Дырэктар канторы «Тры алені» Сцяпан Захаравіч Загагулін вярнуўся з раённай нарады ў дрэнным настроі. І адразу запрасіў усіх супрацоўнікаў на планёрку.

– Так, шаноўныя! – злосна зыркаючы арлінымі вачыма ў бок інжынера Арцёма Сідарава, пачаў чытаць натацыю дырэктар. – Працаваць трэба лепш! Я лічу так: далі табе заданне – выконвай! Калі можаш – перавыконвай! А то некаторыя разумнікаў з сябе строяць, рацыяналізатарамі ды вынаходнікамі прыкідваюцца. Удасканальваць нешта імкнуцца, прагрэсіўныя методыкі выкарыстоўваць... Усё хочуць паказаць, што яны мудрэйшыя за іншых!

Загагулін усё больш распальваўся, увесь час паглядаючы на Сідарава. А інжынер ніяк не мог зразумець, чым ён не дагадзіў Сцяпану Захаравічу. Працуе ж не горш за іншых, заўсёды актыўнасць праяўляе, усім пры неабходнасці з задавальненнем дапамагае. Тым больш яшчэ пару дзён таму дырэктар хваліў Сідарава. Здзіўлена пацiскалі плячыма і ягоныя калегі. Але ўсе моўчкі слухалі, таму што калі пачнеш апраўдвацца або спрачацца, яшчэ горш будзе.

А пасля працы Сідараў раптоўна сустрэў у краме сваю добрую знаёмую Валянціну Іванаўну, якая прысутнічала на раённай нарадзе разам з Загагуліным.

– Слухай, Арцём, табе нічога не казаў твой начальнік?

– Чаму ж! Даў зразумець, што я дрэнны супрацоўнік...

– Ты не жартуеш? Цябе ж сёння раённае начальства вельмі хваліла!

– А Сцяпана Захаравіча?

– Яго нават не ўзгадалі!

– Цяпер усё зразумела! – рассмяяўся Арцём і распавёў пра дзіўныя паводзіны дырэктара на планёрцы, і дадаў: – Праўду кажуць, што цвік, які вылазіць, забіваюць... Але ж я не са слабакоў і так проста не здамся.

*г. Рагачоў.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.

# КАНЕЦ КАР'ЕРЫ ПУСТАХОДА

*Фельетон*



Сцяпан Пустаход ужо пяць гадоў узначальваў сельгаспрадпрыемства. І хоць гаспадарка не выбілася ў перадавыя, аднак цвёрда займала залатую сярэдзіну. Дзякуючы гэтаму, начальства дырэктара і не крытыкавала, і не хваліла. А маладому кіраўніку вельмі хацелася, каб усе яго ўспрымалі як таленавітага арганізатара сельскагаспадарчай вытворчасці. Ды і няблага было б, каб ордэн далі. Але ж для гэтага трэба павысіць паказчыкі росту прадукцыі. Напрыклад, дабіцца сямі тысяч кілаграмаў малака на фуражную карову*.

І Сцяпан Пятровіч пачаў працаваць. На чарговай нарадзе перад жывёлаводамі паставіў амбіцыйную задачу: павялічыць вытворчасць малака на сорак працэнтаў.

— Гэта ж нерэальна, — засумняваўся загадчык малочна-таварнай фермы Іван Іванавіч.

— Іншыя гаспадаркі ж дасягаюць такіх вынікаў, — заўважыў дырэктар, — а чым мы горшыя?

Рабіць няма чаго, супрацоўнікі паслухалі наказ начальніка і прыступілі да выканання. Але як ні стараліся апаратары машыннага даення, атрымаць больш прадукцыі ад кароў не змаглі.

Тады Сцяпан Пятровіч вырашыў пайсці іншым шляхам. Ён прапанаваў загадчыку фермы завышаць надоі, а фіктыўнае малако спісваць, быццам яго выпівалі цяляты.

— Але ж за гэта можна пагарэць, — зноў занепакоіўся Іван Іванавіч.

Такая ўпартасць падначаленага вывела дырэктара з цярпення:

— Рабі так, як я сказаў, і не распускай нюні!

Надоі пачалі «расці». Прозвішча дырэктара сапраўды загучала. Ён быў цвёрда ўпэўнены, што хутка за сваю «самаадданую» працу атрымае жаданы ордэн. З гэтай нагоды славалюбівы кіраўнік нават купіў новы касцюм. Ружовыя мары няспынна плылі ў ягонай галаве: пасля атрымання ўзнагароды ён сустрэнецца са сваімі калегамі, якія цёпла павіншуюць героя, і, вядома, па-беламу пазайздросцяць. А ад журналістаў не будзе адбою.

Аднак марам Сцяпана Пятровіча не давялося здзейсніцца. Хтосьці на яго напісаў ананімку ў Камітэт дзяржкантролю. Правяраць факты прыехала маладая і даволі сімпатычная жанчына Галіна Іванаўна.

Сцяпана Пятровіча ананімка ўсхвалявала, але сустрэўшы такую мілую правяральшчыцу, ён супакоіўся. Дырэктар не губляў надзеі, што жанчына не будзе моцна «капаць», і ў выніку справа вырашыцца станоўча.

Закончыўшы агляд усіх неабходных дакументаў, Галіна Іванаўна спытала ў Сцяпана Пятровіча:

— Слухайце, а чаму цяляты выпілі так многа малака?

— Мы стараліся і рабілі ўсё магчымае, каб яны хутчэй раслі, — адказаў кіраўнік гаспадаркі.

— Тады паглядзім, якія вывады на конт гэтага зробяць спецыялісты, — паабяцала кантралёрка, — даведку пра вынікі праверкі мы вам вышлем.

А рашэнне было суровым: наш герой не толькі страціў пасаду, але ў дадатак яшчэ атрымаў строгае адміністрацыйнае спагнанне. Мара пра ордэн стала недасягальнай...

**Аляксандр ЖУКОЎСКІ,**
*г. Клецк.*

*фуражная карова — дойная карова, якая атрымлівае дадатковы раслінны корм.




У якім пакоі шукаць спакой?

Масла? А маслам і не пахне...

Дакладная запіска была недакладнай.

Купіў запалкі, а там — толькі палкі.

Якая ў віна віна?



Не кара́лямі кара́лі каралí.

Адпраўлю я дачку́ на да́чку.

Вы не адкажаце нудзе: ну, дзе?

Праблем у галаве хапае з галавой.

**Даслаў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

# ЛЕТА, СОНЦА, ПЛЯЖ!




Пётр КОЗІЧ.






Мікола ГІРГЕЛЬ.



Алег КАРПОВІЧ х 2.




Алег ГУЦОЛ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




## Анатоль ЗЭКАЎ

### Знямога

*Нарэшце — за спіной дарога,*
*Не чую ні плячэй, ні ног.*
*Нібы не я — мая знямога*
*Зрабіла крок цераз парог.*

*Сяргей ДАВІДОВІЧ*

Калі выходзіў на дарогу,
Ёй шыбаваць гадамі мог.
Не падбіралася знямога
Да маладых плячэй і ног.

Ішоў я часам дужа спешна,
Не пераводзіў нават дух.
Не выбіраў ніякіх сцежак —
Ні праз балота, ні праз луг.

І хоць, было, трымцела сэрца,
Не пакідаў сіл пра запас,
Бо ведаў: дзесьці там пасецца
Незацугляны мой Пегас.

Парнас — вось мэта ўсёй дарогі.
Ступіўшы ж на яго парог,
Уцяміў: ад хады знямог я,
Не чую ні плячэй, ні ног.

Ды так падумаў я, дарэчы,
Што хто б тут што з вас ні казаў,
Навошта ногі мне і плечы?
Была б на месцы галава!



## Міхась МІРАНОВІЧ

### Справа не ў гадах

*Неўпрыкметку, спакваля*
*Старасць падбіраецца.*
*Пад нагамі і зямля*
*Быццам бы гайдаецца.*

*Анатоль ЗЭКАЎ*

Анатоль,
Ты хібіш штосьці —
«Старасць
Падабралася».
Бо зямля ж
І ў маладосці
Іншы раз
Гайдалася!



### Слушная думка

*Мала адной для мужчыны*
*жанчыны...*

*Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

Выкажу ўдзячнасць
Я не без прычыны
За гэту выснову.
Паэт — малайчына!
Мала адной
Для мужчыны жанчыны!!!
...Ды ці паверыць
Мая палавіна?



## Аляксандр БЫКАЎ

### Маладзільны вянок

*Ты мне здаешся школьніцай-*
*дзяўчынкай*
*У тым вянку рамонкавым сваім...*
*****
*А можа, й мне узяць памаладзець...*

*Мікола ШАБОВІЧ*

Гады ляцяць. Даводзіцца пацець,
Калі уверх па лесвіцы намецішся.
А ты ў вянку рамонкавым аж
свецішся...
Дык можа, й мне узяць
памаладзець?

І вось аднойчы, лета як гуло,
Натрапіў на паляну я з рамонкамі
І, прыгадаўшы вусны твае тонкія,
Вянок сабе ўздзябурыў на чало.

Не ведаю, ці шмат памаладзеў,
Ды, як вяртаўся вуліцай вясковаю,
Дзяды ківалі здзіўлена галовамі,
А дзеўкі пахаваліся за хлеў!

## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

### Градус кахання

*Жанчына спіць. На снезе прасціны*
*Спякотнае раскінулася цела.*
*Яно жывою ліраю звінела,*
*Калі мы заставаліся адны.*
*****
*Ды мы з табой, нібы ў чароўным сне,*
*Да схочу п'ём бярозавік кахання.*
*****
*Ноч. Вясна. Шэкспір. Санеты.*
*Лёгкі шолах пад акном...*

*Змітрок МАРОЗАЎ*

Пілі з табой бярозавік кахання,
Настройваў я тваю жывую ліру...
Напой, відаць, быў з градусам,
бо ўранні
Забыў пра ўсе санеты і
верлібры,
Што для цябе, чароўная, чытаў.
Імя тваё я нават не спытаў.
Ты знікла... Толькі том ляжыць
Шэкспіра.
Дзе для натхнення зноў знайсці
мне ліру?

## Пётр СЯМІНСКІ

### Рэкорд

*...Каб ты стварыў мне лёгкі грэх.*

*Тамара МАЗУР*

Быццам спеленькі арэх,
Прыняла я лёгкі грэх.
Быў душы маёй бліжэйшы
Грэх у два разы цяжэйшы.
Фінішам былых гадоў
Стаўся грэх у сем пудоў.
Заўтра я без абароны
Грэх прыму вагой паўтоны.
Уцягнулася, бы ў спорт,
І іду я на рэкорд!










Аляксандр ПЯТРОЎ.




**Падарунак з сюрпрызам**

Малады паэт падарыў свой зборнік вершаў знаёмаму і гаворыць:

— А грошы за кніжку — 10 рублёў — вернеце наступным разам.

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

## Віктар РЭЧЫЦ

### Адказ байкару



Напісаў пра павука
Байку новую байкар.
Прачытаў павук яе —
Думкі выказаў свае.
— Вы, — сказаў ён байкару, —
Скарысталі зноўку друк,
На мяне каб наваліцца
І аблаяць, як шкадлівуца.
Згодзен з вамі: я — драпежнік,
Не раслінная ў нас ежа.
Мух ды іншых насякомых
Ловім мы даўно без стомы.
Ды ці ж наша ў тым віна?
Вы павінны гэта знаць:
Так задумала прырода,
Не пытаючыся згоды.
Есці насякомых мусім,
Бо раслінай не закусім.
А вы гляньце на сябе,
На звычайны свой абед.
Вам раслінай ежы мала —
Мяса хочаце кавалак
Індыка, ці кабана,
Ці быка, ці барана...
Вы драпежнік больш шчэ —
Ад вас мала хто ўцячэ!..
Да канца байкар даслухаў.
Як па кумпале абухам,
Білі словы павуковы.
І зрабіў тады выснову:
— Будуць хай у байках, — кажа, —
Лепш людскія персанажы.

*г. Івацэвічы.*




# Празаік, лірык, гумарыст

*Стагоддзе з дня нараджэння Янкі (Івана Антонавіча) БРЫЛЯ (1917 – 2006) святкуе сёлета беларуская грамадскасць. Будучы народны пісьменнік БССР нарадзіўся ў Адэсе, але ў 1922 г. разам з бацькамі пераехаў у вёску Загор'е, што на Гродзеншчыне. Жыццё яго было багатым на перыпетыі: спачатку юнака прызвалі ў польскую армію, служыў у марской пяхоце, трапіў у нямецкі палон; пазней – сувязны партызанскай брыгады, партызан-разведчык, рэдактар газеты «Сцяг свабоды» і сатырычнага антыфашысцкага лістка «Партызанскае жыгала», супрацоўнік рэдакцыі газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну».*

*Пачатак творчай дзейнасці Я. Брыля супаў з яго працай у часопісе «Вожык» у першыя пасляваенныя гады. Тут адточваўся і ўдасканальваўся гумарыстычны талент пісьменніка, фарміраваўся адметны стыль пісьма. Іскрысты гумар, трапная сатыра ўдала пераплятаюцца ў яго прозе з сур'ёзнымі жыццёвымі разважаннямі і назіраннямі, лірычнымі замалёўкамі. Іначай і быць не магло: такі ўжо характар меў Іван Антонавіч. Паводле ўспамінаў сучаснікаў, пасля нават кароткага знаёмства з Янкам Брылём кожны трапляў пад уплыў яго ўсмешлівай абаяльнасці. Непадробная зацікаўленасць, шчырая добразычлівасць і лагодны жарт – вось што супрацьпастаўляў пісьменнік сухой афіцыйнасці і фармальна-абыякаваму стаўленню да працы і людзей.*

*Давайце ж разам усміхнёмся простаму, шчыраму, падгледжанаму ў самога жыцця гумару прызнанага майстра слова.*



Сяброўскі шарж М. Гіргеля. 1977 г.

**Янка БРЫЛЬ**

## З людзьмі і сам-насам

* * *

Прыпозненьі жаніх, трохі пісьменнік, больш журналіст, шукаў сабе пары сярод маладзенькіх. Пажылая мяшчанка, у якой была на кватэры дзяўчына, што ў Мінск прыехала з Расіі, расказвала пасля, што вось ён першы раз зайшоў, а яе, дзяўчыны, няма дома.

– Ветлівы, нічога не скажаш, але як зняў капялюш, дык на лысіне толькі адна пружынка падскочыла!..

* * *

Бабуля расказвае:

– Цётка твая, Зося, нарадзіла Анечку ноччу, у тры гадзіны.

Бабін унучак, цётчын любімы пляменнік, якому шосты год, пытаецца:

– А цёцю Зосю тады разбудзілі?

* * *

Гаспадыня рупліва пытаецца ў суседа-печніка, які робіць ім печ:

– Колькі ж, Адолька, табе яец на яечню?

– Калі будуць плаваць, то тры, а як не будуць, то пяць. Плаваць, вядома ж, у сале ці ў масле.

* * *

Цыбаты юнак з гітарай, яшчэ адзін бард, для большай перспектывы рускамоўны. Рэфрэн у «гарадскім рамансе», як ён яго аб'явіў:

*...И шампанского брызги,*
*и девушек визги...*

І захацелася – за нейкім чацвёртым ці пятым разам – дадаць:

*...и талантливо вдрызги!..*

* * *

Сціплая, як здавалася, метадыстачка ў Доме культуры на сваім саракавым годзе раптам захацела прайсці ў Вярхоўны Савет. Калі я выняў з паштовай скрынкі яе кандыдацкую, як цяпер, на польскі лад, гаворыцца, улётку з малавыразным партрэтам, прыпудранай аўтабіяграфіяй і абяцаннем таксама ашчасліціць Беларусь, – адразу ажно не паверылася, што гэта – яна, наша Жана!.. А потым успомніўся адзін загорскі анекдот.

Мужык пазнавата вярнуўся з вясковага сходу, а цікаўная жонка спыталася, пра што ж там сёння гаварылася. Вячэраючы, мужык адказаў, што вырашылі выбраць новага солтыса (пры Польшчы гэта было). І ўжо на гэты раз, удакладніў ён, жуючы, – не мужыка, а бабу. Аднак толькі такую, што зможа залажыць нагу за галаву. Назаўтра ўранку гаспадар штосьці корпаўся ў хаце, а гаспадыня пайшла ў грады, палоць. А потым убягае ўшчэнт перапалоханы сынок:

– А татачка, а нашу мамку душыць тхор!..

Пабег чалавек, а там яна – у баразне, заголеная – аніяк не можа вярнуць нагу з-за галавы назад!..

Адратаваў.

*«Дзе скарб ваш», Мн., 1997 г.*




# Гумарыстычны набытак народнага паэта

*Багатую літаратурную спадчыну пакінуў класік айчыннага слова Янка Купала (1882 – 1942) сваім нашчадкам. Гэта найперш сацыяльная, эпічная, лірычная і інтымная паэзія, розныя віды драматургіі, каларытная публіцыстыка. Беларускі пясняр быў сынам свайго часу і свайго народа, што прадвызначыла выразную сацыяльную накіраванасць яго творчасці. Аднак побач з грамадзянскай лірыкай з-пад пяра мастака слова з'яўляліся жартоўныя вершы і байкі – і гэта зусім заканамерна: выкарыстоўваючы вобразы і матывы народнай творчасці, нельга было не звярнуцца і да сакавітага, трапнага, жывога гумару беларусаў. Напрыклад, такога, з якім дасціпны мужык ушчувае непаслухмяную жонку (верш «Благая жонка»).*

*Найбольшай канцэнтрацыі талент Купалы-гумарыста дасягнуў, безумоўна, у яго знакамітых камедыях «Паўлінка» і «Прымакі». Прайшло больш чым сто гадоў з часу напісання гэтых твораў, але мы і сёння шчыра смяёмся з персанажаў, сітуацый і стасункаў, удала запазычаных з народнай творчасці і па-мастацку дасканала перапрацаваных класікам. Сёння, калі мы адзначаем 135-годдзе з дня нараджэння мастака слова, прапануем узгадаць сцэнічны жарт «Прымакі» і ў чарговы раз падзівіцца майстэрству пісьменніка ў абмалёўцы характараў персанажаў, трапным выкарыстанні традыцый і прыёмаў народных камедый, жартоўных песень і прыпевак.*

**Янка КУПАЛА**

## Прымакі

*Сцэнічны жарт у адным акце*

*Урывак)*



**Асобы:**
**Максім Кутас.**
**Паланея** – яго жонка.
**Мацейка** – іх сын.
**Трахім Сініца.**
**Даміцэля** – яго жонка.
**Кацярына** – іх дачка.
**Ураднік.**
**Соцкі.**
**Сяляне, сялянкі.**

*Дзея адбываецца ў часе, калі былі манапольцы, на другі дзень Сёмухі, у хаце Трахіма Сініцы.*

### З'ява I

*Максім адзін*

Максім *(ляжыць на ложку і разглядаецца па хаце)*. Цьфу, каб цябе паляруш! Куды мяне, самдзеле, загнала нядобрае? Ці гэта я жыву, ці гэта я не жыву, ці гэта я толькі сон сню? Паспрабую сам сабе па носе стукнуць, ану ж пазнаю, на каторым я свеце. *(Ударае сябе па твары рукой.)* Ай, баліць, каб цябе немач! Значыцца, я на гэтым свеце і нават не сплю. Але як тут споўзаць па розум да галавы і навясці спраўку, куды мяне ліхаманка з сваёй хаты перавалакла? Бо ж такі хата гэта не мая, як сабе, мае міленькія, хочаце. У маёй хаце павуціннe па ўсіх чатырох кутках, а тут бачу толькі на трох... У маёй – абразы: Юры на белым кані з доўгаю пікаю і Мікола ў бляшанай шапцы; а тутака, праўда, Юры ёсць, але на месцы Міколы вісіць «Страшны суд». Брр! Які ён, самдзеле, страшны, гэты «Страшны суд»! І давялося ж мне папасці ў хату з гэтым судом страшным! Пачакайце! Як гэта выйшла? Учора была, здаецца, нядзеля? Так, такі ж нядзеля, ды першая ў гэтым тыдні. Раніцай еў бліны. Пасля спаў да паўдня; устаўшы, паабедаў дый зноў хацеў легчы, але тут і выйшла закаклюка. Мая Паланея, як распаланелася на ўсю сваю моц, дык і сон мой прапаў аж да часу, калі я – ужо не помню як – апынуўся на гэтым вось чужым ложку. Дзе ж! Трэба ведаць! Прычапілася – канечна, каб я вёў кабылу пасвіць. Найшла пастуха! Я кажу – не павяду! Яна кажа – павядзеш! Я кажу – не мяшайся ў маю гаспадарку! А яна і паехала-паехала: а ты сякі-такі, а ты – ламака, а ты абібока, а ты... а ты! Каб цябе не знала, а пайшла за Трахіма Сініцу, як ён да мяне сватаўся, дык бы паняй была, а за табой, дурнем... Як сказала яна «дурнем», ну дык, мае міленькія, хто ж гэта вытрымае? Калі б хто і папраўдзе быў дурань, дык не засмакуе, каб яму ў вочы гэткі чын давалі – ды яшчэ хто? Родная-раднюсенькая жонка! Ну, як яна, значыцца, сказала, самдзеле, дурань, дык мяне аж за самыя вантробы забрала. Усхапіўся я, самдзеле, з ложка, адшпіліў дзягу і ўжо думаю сабе... А яна – не тут успамінаючы, не дзяга, а мая жонка – вазьмі ды схапі мешалку. Ох, мае міленькія! Сам Люцыпар, відаць, выдумаў гэтыя мешалкі, як падсоўваў нябожчыцы Еве яблыкі ў раі. Бо дайце ж рады! Паліў я гэта яе – значыцца, мешалку, а не Еву – колькі раз, на добрыя кусочкі сек, і ўсё роўна: як прыйдзе што да чаго, дык – на табе, і ёсць! І каб цябе ліхаманка, яшчэ выдумалі стаўляць гэтыя мешалкі ў качарэжніку, каля парога. Значыцца, як угледзеў я, што мая баба бярэ гэты – згінь-прападзі! – пісталет бярозавы, ну, а я... што ж я? Бачу, што непераліўкі, схапіў бравэрку пад пахі і, трымаючыся за паясніцу, – гэта, каб не спутала мяне самая патрэбная рэч, – ды гэтак: скакель праз акно! Балазе што хоць было адчынена. Не думайце, мае міленькія, што гэта я з перапугу задаў так лататы. Гэта я так сабе, як

вам сказаць, на далікатны манер пусціўся. Я ж, як самі бачыце, пэўна што яе не баюся. Ды што ж бы было, каб даведаліся суседзі, што я ў сваёй аздабульki пад хвартухом сяджу? Я не такі трус, як гэты Трахім Сініца: чуць яго Даміцэля мешалкай памсціцца, дык ён са страху аж дрыжыць. Ну, значыцца, як гэта я спакойна сабе выбег з хаты, узяў ды пайшоў памаленьку на сяло. Дзягу на сваім месцы замацаваў, бравэрку на плечы накінуў – гэта, значыцца, каб форсу больш было,– іду сабе па вуліцы, як нішто ні ў чым. Падходжу пад манапольку, глядзь – сядзіць мой Трахімка Сініца на ганку і трымае паўквартачкі ў руках,– гарэлачка й шкло аж пераліваюцца на сонцы! «А мой жа Кутасок! – гэтак ён да мяне: – садзіся, кумочак-галубочак! А то я думаў-думаў, з кім бы гэту палавінку ды яшчэ на палавінку перакрышыць?» Ну, а я, канечна, чалавек натуры няўпарчывай: чаму ж, думаю сабе, ад добрага суседа ласкі не прыняць? *(Пазяхае.)* Ха-ха-ха! Нешта зноў спаць хочацца. *(Сонна.)* Селі мы гэтак сабе – я і Трахімка – асушылі паўквартачкі – адну, другую, трэцюю. Сядзелец – каб яму і ў пекле здароўе было ды панаванне – вельмі падатлівы ў нас: і ў нядзельку гарэлачкай таргуе, хоць гэта, кажуць, закон і забараняе. Вось цяпер, значыцца, і не помню, як я ў гэту не ў сваю хату папаў. Ведаю, што за нешта рукі пабілі, барыш нейкі пілі, цалаваліся. Трахімка слязу пусціў, і я не вытрываў, размасліўся, а там.... а там, хаця лопні, нічога не ведаю!.. (Праз сон.) Можа, як засну, дык прысню, хто я і дзе я?..

### З'ява III

*Максім, Кацярынка, Даміцэля*

**Даміцэля** *(уваходзіць з судамі вады і стаўляе іх каля парога на прылаўку. Да Кацярынкі)*. А ты гэта, сарока, чаго так ухмыляешся да люстэрка, як серада на пятніцу? Звалаклася недзе, а тут адной мне хоць падарвіся: ні вады каму прынесці, ні ў хаце прыбраць. Зараз жа мне хату замятай! *(Порацца качаргой у печы.)*

**Кацярынка** *(замятаючы хату)*. Чаго, мамка, раз'ехалася, як прачыстая на сенажаці? Я ж не сядзела рукі злажыўшы. *(Расцягваючы.)* У-ста-ла, па-мы-ла-ся, павяла ця-луш-ку, напасвіла, назбірала кве-та-чак і вяночак спляла! *(Кідае венік, знімае вянок і хоча надзець яго матцы.)* Паглядзіце, які харошанькі! А як ён мамцы ідзе да твару! Даліпантачкі, хоць да шлюбу мамку вядзі! Каб татка ўгледзеў, вота б пацалаваў з любасці!

**Даміцэля** *(зрываючы вянок)*. Адчапіся, назола! Я ўжо на каптур замяніла свой вянок у царкве, а ты, з вялікай рызыкі, каб толькі не згубіла свайго дзе пад плотам.

**Кацярынка** *(зноў налажыўшы сабе вянок на галаву, замятаючы хату)*. А скажыце, мамачка: ці гэта не ўсё роўна будзе, ці вянок у царкве на каптур прагандляваць, ці згубіць яго пад плотам? А мо і мамка перш згубіла, а пасля памяняла?

**Даміцэля.** Замятай вось лепей, а не мялі языком, як калатоўкай! Яшчэ молада ўсё ведаць – што трэба і што не трэба.

**Кацярынка** *(круцячыся з венікам і прыпяваючы)*.

*Сама хату падмяла,*
*Сені выпратала;*
*Сама сябе палюбіла,*
*Сама высватала.*

**Даміцэля.** Пацеры ці згаварыла, што так выкручваешся, як скурат на агні. Бяры настольнік і засцялі стол! Снедаць даўно ўжо пара.

**Кацярынка** *(засцілаючы стол).* А, мамка, тату будзіце, а то ўсю гаспадарку сваю праспіць.

**Даміцэля** *(стаўляючы на стол яешню і бліны).* Глядзі, каб ты толькі сама сябе не праспала, а за бацьку не бойся!

**Кацярынка** *(глянуўшы на яду)*. Ого! Мамка сягоння бліноў і яешні напякла.

**Даміцэля.** А нешта ж ты не ведаеш, што сягоння толькі другі дзень Сёмухі? *(Ідзе да ложка і будзіць Максіма.)* Трахім, Трахім! Уставай! Годзе табе адлежваць бакі! Паўдня ўжо на дварэ! На стале снеданне! Уставай! *(Прыглядаючыся да бравэркі.)* Адкуль ён гэту бравэрку сцягнуў? Гэта ж не наша! Паглядзі, Кацярынка!

**Кацярынка** *(прыглядаючыся)*. Але ж, не наша! Мусіць, тата памяняў з некім, як мамка вянок на каптур.

**Даміцэля.** Ды ўжо ж недзе памяняў, бо ўчора, апоўначы, п'яны прыйшоў, чуць памагла на ложак узабрацца. *(Тузаючы Максіма.)* Уставай жа, каб ты не ўстаў! А то зараз мешалкай...

**Максім** *(усхапіўшыся і хрысцячыся)*. Цьфу, ізноў мешалка! Каб яе пярун пашчапаў!..

*Даміцэля і Кацярынка адскокваюць ад ложка, здзіўленыя, перапужаныя.*

**Даміцэля.** Гэта ж не Трахім!

**Кацярынка.** Гэта ж не тата!

**Максім** *(праціраючы вочы, убок)*. На табе! Хата чужая, баба чужая, а заместа майго ўласнаручнага сына – нейкае спаднічнае стварэнне! Вось так папаўся ў нерат – ні ўзад ні ўперад! Ну, Максім! Ламі мазгі, каб не прапаў саўсім.

**Даміцэля** *(прыгледзеўшыся)*. Ды гэта ж наш кум – Максім Кутас!

**Кацярынка.** Ха-ха-ха! Татка на дзядзьку Максіма перакуліўся! Ха-ха-ха! Тата – ваўкалак, ваўкалак!

**Максім** *(ахіліўшыся бравэркай, садзіцца на ложку)*. Што я тут бачу? Гэта ж Трахімава хата і яго баба. *(Да Даміцэлі.)* А мая ж Даміцэлька! Ці не ведаеш, якім-такім манерам я сюды папаўся?

**Даміцэля.** Я зараз манеры выганю васпану з галавы! Дзесятаму закажаш, як чужых жонак паначы ашукваць. *(Ідзе ў качарэжнік і бярэ мешалку.)*

**Кацярынка** *(убок)*. Быў адзін тата, а цяпер аж два! (Да Максіма.) Мусіць, дзядзька сягоння кепска з мамкай вянок на каптур гандляваў, дык яна хоча прыдатку даць.

**Максім** *(чухаючы галаву)*. І ўпутала ж мяне нядобрае ў гэту авантуру! Яшчэ з гэтай бабай, можа, і дам якколечы рады, але што будзе, як мая Паланея ды Трахім даведаюцца? А тут яшчэ гэты, як на безгалоўе, «Страшны суд» вісіць на сцяне! *(Да Даміцэлі.)* Кумачка, Даміцэлька! Кінь ты гэту мешалку, я сваёй маю аж вось пакуль! <...>

*1913 г.*

# Дыялогі

## Дажыць да ста гадоў

— Дзеду! Скажы, а як ты дажыў ажно да ста гадоў? — пытаецца маленькі Косцік.

— Усё дзякуючы таму, унучак, што нарадзіўся я ў 1917-м годзе, — патлумачыў дзед.



## Сціплы тата

— Мама, а тата быў сціплым чалавекам?

— Канешне, бо іначай табе было б на пяць гадоў болей.

## Акуляры

Сустрэліся дзве сяброўкі.

— Вой, і ты ўжо носіш акуляры?! — здзівілася першая і з'едліва дадала: — Ну, затое так твае маршчыны будуць незаўважнымі.

— І праўда! Да таго ж твае маршчыны стануць больш выразнымі, — не разгубілася другая.



## Купіў таксу

— Навошта ты купіў таксу? — пытае сусед суседа.

— Ды каб усе мае дзеці маглі адначасова яе гладзіць!

**Даслаў Леў КАЗЛОЎ,**
*г. Мінск.*

## Пытанне пра харчаванне...



Аляксандр ШМІДТ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.







Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ х 2.

2 серыя

Серыял Вожыка

# ПАДМАНАМАНІЯ

## Не давярай, а правярай!

Хачу папрасіць сына, каб навучыў рабіць плацяжы, не выходзячы з дому, праз камп'ютар.

Будзе зручна. Не трэба ў банк бегаць…




Ты ўся збялела! Што здарылася?

Незнаёмы мужчына прадставіўся даішнікам і паведаміў, што наш сын трапіў у аварыю і пашкодзіў чужы аўтамабіль.

Каб кампенсаваць шкоду, трэба перавесці ўказаную суму на картку…

Усё ж прыйдзецца бегчы ў банк.



















Працяг будзе...

## Не хачу вучыцца, а…

– Мама, я не хачу вучыцца! Лепей выйду замуж і завяду дзяцей, – заявіла маці 14-гадовая дачка.

– Мілая, ну куды так рана? Можа, ты лепш матэматыку павучыш ды школу скончыш? – сказала маці і ўздыхнула. Яна разумела, што родная крывінка яе не паслухае. Як і заўсёды.

– Я ўжо дарослая! А твае словы для мяне не аўтарытэт! – раззлавалася дачка і, бразнуўшы дзвярыма, кінулася прэч.

На наступны дзень дзяўчына збегла з дому ў пошуках жаніха. Дарэчы, да гэтага яна рабіла падобныя спробы ўжо пяць разоў! Але яе хутка знаходзілі і вярталі да маці. На гэты раз ўцякачку шукалі ажно два месяцы.

Здаецца, у такой сітуацыі дапаможа толькі дзяга, якая выб'е ўсю дурасць і прымусіць дачку з павагай адносіцца да маці.

## «Геніяльная» задума

«Вожык» не раз пісаў пра дзіўныя крадзяжы. Злодзеі прысвойвалі сабе розную дробязь у крамах, старую мэблю і нават закаткі са склепаў.

Але жыхар Ліды пераплюнуў сваёй «геніяльнай» задумай усіх.

Яму патрэбен быў халадзільнік на дачу, але грошай на пакупку тэхнікі




не было. Таму ён знайшоў хітрае выйсце – украсці Indesit у суседа па камунальнай кватэры. У дадатак, мужчына вырашыў не выкідаць з халадзільніка прадукты, а прыхапіць з сабой. Пакуль нікога з суседзяў не было дома, ён акуратна вывез тэхніку.

Прадукты злодзей з'еў, а халадзільнік працягваў выкарыстоўваць па назначэнні. Вось толькі ў хуткім часе на дачу лідчаніна завіталі міліцыянеры, якія канфіскавалі маёмасць і вярнулі законнаму ўладальніку. Мужчына быў затрыманы, узбуджана крымінальная справа па артыкуле «Крадзеж». Цікава, на колькі гадоў суддзя ацэніць яго «геніяльную» задуму?

## Сюжэт для фільма

Часам сустракаюцца навіны і здарэнні, па матывах якіх можна здымаць фільмы ці пісаць кнігі. Вось вам прыклад.

30-гадовы мужчына быў у Гродне на вучобе. Нечакана яму рэзка спатрэбілася паехаць у Мастоўскі раён да сваякоў. Каб дабрацца да патрэбнага месца, мужчына крадзе аўтамабіль Audi 80. Але неўзабаве ў вандроўніка ўзнікаюць першыя цяжкасці – каля вёскі Мілевічы машына ламаецца. Ды і тут ён хутка знаходзіць рашэнне і… крадзе новае аўто – Volkswagen Passat.

У гэты час яго пачынаюць шукаць праваахоўныя органы. Неўзабаве супрацоўнікі ДАІ заўважаюць скрадзены аўтамабіль. Пачынаецца пагоня. Мужчына паварочвае на лясную дарогу, машына ДАІ рухаецца за ім і раптоўна захрасае ў багне. А вось у нашага вандроўніка атрымліваецца праехаць яшчэ каля кіламетра. Пасля чаго яго аўто спыняецца на балоце. Мужчына пакідае Volkswagen і ўцякае.

Апынуўшыся ў Мастах, наш галоўны герой зноў узломвае машыну. Выбар трапляе на ўжо звыклую Audi 80. Але каля Скідаля ў яго канчаецца бензін. Як злодзей вырашае праблему? Вы правільна думаеце! Ён крадзе яшчэ адну Audi 80 і даязджае на ёй да Ваўкавыска. Там зноў заканчваецца паліва, і наш авантурыст знаходзіць у горадзе чарговую Audi 80…

Невядома, колькі б гонка працягвалася, але злачынцу нарэшце затрымалі. Канец гісторыі, безумоўна, не вельмі добры для фільма, затое ўсё, як у рэальным жыцці!



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Алег КАРПОВІЧ

## Сапраўднае каханне

*Быль*

Певень у Пятроўны быў дужа прыгожы: чорна-чырвоны з вялікім барвовым грэбнем набакір. Да таго ж моцны і галасісты.

Вось толькі з'явілася ў яго адна звычка. Абышоўшы курэй са свайго двара, ён дзелавіта шпацыраваў да суседчынага – Ганкінага, дзе пеўня чакалі дзве сяброўкі. Зрабіўшы круг з распушанымі крыламі вакол курыц, чорна-чырвоны залётнік вёў іх да сябе, на падворак Пятроўны. Тыя там і несліся, а Пятроўна забірала «знаходкі». Угледзеўшы такое нахабства з боку суседкі і яе пеўня, Ганка ўсчала сварку:

– Зачыні свайго пеўня, Пятроўна, хай не ходзіць на мой двор! Мала таго, што курэй да цябе зводзіць, дык я яшчэ і яек не далічваюся.

– І як мне гэта зрабіць? Стрыножыць, як таго каня? Ці што? – адказвала разгневанай суседцы Пятроўна.

Але пасля моцна лаялася на свайго прыгажуна са шпорамі:

– Я табе пакажу, як мяне няславіць! Зараз хвост абскубаю, а то распушыў свой веер ды шпацыруе тут гогалем!

Злаўчыўшыся, яна неяк схапіла пеўня і пасадзіла ў вялікую драўляную скрыню. Тым часам, не дачакаўшыся кавалера, дзве ягоныя суседскія сяброўкі адправіліся на пошукі. Калі знайшлі, то заквокалі каля скрыні і сталі каля яе, як скамянелыя, а потым і ўвогуле паселі побач ды так і засталіся начаваць. Назаўтра ўсё тое самае: нясушкі сядзелі нерухома каля свайго «рыцара». Паглядзеўшы на такое дзіва, Ганка і Пятроўна замілаваліся: ты бач, якія адданыя! Вырашылі выпусціць гуляку-пеўня. Той адразу пераможна пракукарэкаў некалькі разоў, прайшоўся вакол верных сябровак, і тыя накіраваліся да звычнага месца несціся.

Давялося гаспадыням падладжвацца да выбрыкаў сваіх пярнатых. Адзін тыдзень Пятроўна збірала яйкі і несла іх Ганцы. Другі – Ганка сама да яе хадзіла. Так суседкі пamірыліся.

І амаль кожны раз, каля сядзелі за кубкам гарбаты, Ганка дзівілася:

– Ты бачыш, што нашы птушкі вырабляюць? Які хадок твой певень і якія мае куры адданыя! Гэта ж каму скажы, не павераць. Каханне ў іх сапраўднае, амаль як у людзей!

**Раіса ДЗЕЙКУН,**
*г. Гомель.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Алег ГУЦОЛ.

# Абы здароўе!




Урачу зусім не абавязкова верыць у медыцыну — хворы верыць у яе за дваіх.

*Жорж Элгазі, французскі менеджар, тэатральны крытык*

Старых п'яніц сустракаеш часцей, чым старых дактароў.

*Франсуа Рабле, французскі сатырык*

Адна з самых распаўсюджаных хвароб — ставіць сабе дыягназ.

*Карл Краўс, аўстрыйскі пісьменнік*

Рэпутацыю доктара ствараюць знакамітасці, якія памерлі пад яго назіраннем.

*Бернард Шоу, англійскі драматург і дзяржаўны дзеяч*

Сексуальная рэвалюцыя завяршылася поўнай перамогай вірусаў.

*Патрык А'Рурк, амерыканскі пісьменнік і гумарыст*

Перш магію блыталі з медыцынай, цяпер медыцыну блытаюць з магіяй.

*Томас Сас, амерыканскі псіхіятр*

У магутнасць дактароў вераць толькі здаровыя.

*Альфрэд Конар, польскі белетрыст*



Алег ГУЦОЛ.






Аляксандр КАРШАКЕВІЧ і Ганна КІСЛУШЧАНКА х 2.




Алег ПАПОЎ.



## У чым розніца паміж мужчынамі і жанчынамі?



**1.** Мужчына заўсёды заплаціць два долары за аднадоларавую рэч, калі яна яму вельмі патрэбна. Жанчына заўсёды заплаціць адзін долар за двухдоларовую рэч, нават калі яна ёй зусім не патрэбна.

**2.** Жанчына турбуецца пра будучыню, пакуль не выйдзе замуж. Мужчына не турбуецца пра будучыню, пакуль не ажэніцца.

**3.** Паспяховы мужчына зарабляе столькі, колькі яго жонка не можа патраціць. Паспяховая жанчына – тая, якая змагла знайсці такога мужа.

**4.** Каб быць шчаслівым у шлюбе з мужчынай, яго трэба шмат разумець і трохі кахаць. Каб быць шчаслівым у шлюбе з жанчынай, трэба яе шмат кахаць і нават не спрабаваць яе зразумець.

**5.** Кожны жанаты мужчына можа забыцца на ўсе свае памылкі. За яго іх будзе памятаць жонка.

**6.** Жанчына выходзіць замуж і спадзяецца, што муж з часам зменіцца. Яна памыляецца. Мужчына жэніцца і спадзяецца, што жонка ніколі не зменіцца. Ён таксама памыляецца.

**7.** За жанчынай заўсёды апошняе слова ў любой спрэчцы. Усё, што мужчына скажа пасля гэтага – ужо новая спрэчка.

**Даслаў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

Ну і дзе твой букет для мяне?

Пётр КОЗІЧ.




## Што Антосю не ўдалося

Ў бесталковага Антося
Штось жыццё не задалося.
Да пітва такі ахвочы –
Жлукціць можа днём і ноччу.
Падкасіў здароўе значна,
А канца таму не бачна.
Толькі неяк спахапіўся
І не вытрымаў, спыніўся.
Доўга варушыў мазгамі:
«Я збіраў грахі гадамі...
Можа, трэба ўсё благое
Змыць хрышчэнскаю вадою?
Прыхаплю з сабой бутэльку
І, як буду лезці ў пельку,
Каўтану таго «наркозу» –
Не спужаюся марозу».
...У ваду ледзь апусціўся –
У лядыш ператварыўся
І ад жаху так зароў,
Што было не да грахоў...

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*

## Варона і Ліса

*Байка*

Варона раз купіла ў магазіне
На зніжках сыр – па выгаднай цане.
Уселася паснедаць на хваіне,
А можа быць, дарэчы, на сасне.
Ліса там, як на ліха, прабягала,
Уверх сястрыца вочы падняла,
Убачыўшы Варону, запытала:
– За колькі сыр, сяброўка, узяла? –
Ды трук Варона хутка раскусіла.
Напэўна б пахваліў яе Крылоў,
Бо яго байкі ведала, любіла.
Схавала сыр пад левае крыло
І кошт ласунку гэтага назвала.
Ліса такой падставы не чакала.
– Заўмаг Барсук сказаў сакрэтна мне,
Што хутка сыр падымецца ў цане.
Разы у тры, а можа, нават болей.
– Ды ну?! Цяпер не буду есці ўволю! –
Аж скокнула ад роспачы Варона.
Сыр выпаў. І хто з'еў яго – вядома.

***

Бывае, што нас чуткамі такімі
Трывожыць тэлерадыёэфір.
Аднак не варта захапляцца імі,
Бо можна праваронiць ўласны сыр.

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**

## Марнасць жыццёвай мітусні

Як навучыўся я спяваць,
То голасу не стала.
Кватэру ледзь паспеў прыдбаць –
Жыць засталося мала.
Пра марнасць лёсу гэты сказ,
Калі прыходзіць, ды не ў час.

## Дачнік-кампазітар

Ужо не здольны ён народ
Парадаваць санатай,
Затое можа агарод
Перакапаць лапатай.
Клубніцы любіць, і даўно:
Умее з іх рабіць віно.

## Сатырык-міратворац

Падняў стыло на важных шышак –
Прызналі скончаным вар'ятам.
Узяўся за катоў і мышак –
Стаў неўзабаве лаўрэатам.
І заклікае з той пары:
«Давайце дружна жыць, сябры!»

*г. Мінск*







Аляксандр ПЯТРОЎ х 2.




## Як браты родныя

Прыбіраючы кватэру, Надзея не заўважыла ката Мурзіка, які спаў на канапе за падушкамі, і сцягнула яго на падлогу разам з пакрывалам. Той выцяўся, злосна завуркатаў ды ўлёгся ў крэсла. Жанчына, шкадуючы, гладзіла свайго пушысціка і разважала: «Ой, як жа ты падобны да нашага гаспадара, проста на нейкім генетычным узроўні! Абодва ўмееце з заклапочаным выглядам ляжаць на канапе ды злавацца, калі вас патрывожыць».

**Даслала Нэла ЛОСЬ,**
*Пастаўскі раён,*
*г.п. Лынтупы.*

## Кот-хітрун

Надакучыў Юрасю кот: мышэй не ловіць, ляжыць на ганку — толькі кармі яго. Кінуў гаспадар яго ў сумку ды аднёс у поле за два-тры кіламетры ад дому. Нарваў палявых кветак жонцы, прыходзіць дамоў. А жонка сустракае яго... разам з катом.

Такая злосць хапіла Юрася! Узяў ён кацяру за шкірку, пасадзіў у сумку, закінуў у багажнік і павёз на машыне ў лес, за дзесяць кіламетраў. Спыніўся на абочыне шашы, дастаў ката з сумкі ды паплёўся ў гушчар. Насіў-насіў, потым выпусціў. З лесу ледзь выбраўся! Глядзь — а машыны няма! Сеў Юрась на схіл дарогі, звоніць жонцы і кажа, маўляў, ад ката пазбавіўся, а вось машыну згубіў.

— Не хвалюйся! — спакойна адказала жонка. — Ідзі дамоў пешкам, бо кот прыехаў на нашай машыне з патрульным міліцыянерам...

**Даслала Ірына КАРАЧУН,**
*г. Баранавічы.*

## Заусёды ў форме

Я — прыхільнік здаровага ладу жыцця. Колькі сябе памятаю, ні разочку не курыў і ніколі не ўжываў спіртное. Навошта мне гэта? Жыццё і без таго цудоўнае!

У маім рацыёне цалкам адсутнічае мяса. Харчуюся выключна прадуктамі расліннага паходжання. А іх, як ведаеце, безліч! І далікатэсаў нямала. Можа, вы спрабавалі маладыя лісточкі дзьмухаўцоў, падарожніку, шчаўя? У іх столькі вітамінаў і іншых карысных рэчываў. А смаката якая!

Усё гэта ў спалучэнні з тым, што знаходжуся я на свежым паветры, на ўлонні прыроды, дазваляе мне пастаянна быць у цудоўнай форме, бадзёрым і энергічным. Хваробы не прыстаюць, задышка і лішняя вага не турбуюць. Ды і бегаю я так, што рэдка ў каго з суседзяў атрымоўваецца дагнаць мяне.

Ну, і што з таго, што я — заяц?

**Даслаў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ

# Зямля смяецца кветкамі

Крыжаванка



**Па гарызанталі:**

**1.** «Адуванчык, \\ Дзьмухавец, \\ Кучаравы ... » *(з верша А. Дзеружынскага).* **4.** Не кожная мачаха – ..., не кожная падчарка – макавая кветка *(руская прыказка)*. **8.** Бывае каляндарнай, юбілейнай, знамянальнай. **9.** Колас, але не на полі, а ў беларускай літаратуры. **11.** Ён у самы санцапёк падстаўляе сонцу бок *(загадка)*. **12.** «О Беларусь, мая шыпшына, \\ Зялёны ..., чырвоны цвет» *(з верша У. Дубоўкі).* **14.** «Добры ... – гэта сонечны свет у доме» *(афарызм У. Тэкерэя).* **16.** «Цынік – гэта чалавек, які, пачуўшы ... кветак, азіраецца ў пошуках труны» *(Афарызм Г. Менкена)*. **17.** Зайздросніка суседская ружа, як ..., коле *(грузінская прыказка)*. **20.** Трыумфальныя вароты ў Маскве, Трыумфальная ... – у Парыжы. **21.** Месца, дзе адкалоўся кавалак чаго-небудзь. **26.** Пост па-іншаму. **28.** Ад дажджу травы квітнеюць, а ад песні – ... *(узбекская прыказка)*. **29.** Мы з табой, як ... з вадой: ты на дно, а я на бераг *(руская прыказка)*. **30.** Чабор, але маленькі. **31.** Прымаўка – кветачка, ... – ягадка *(прыказка)*.

**Па вертыкалі:**

**2.** «Многа песень спета \\ Пра шчодрае ... . \\ Толькі Ганначка не спявае, \\ У буйных травах кветкі збірае» *(з беларускай народнай песні).* **3.** «... смяе-

цца кветкамі» *(афарызм Р. Эмерсана)*. **5.** ... з сошкаю – сямёра з ложкаю *(прыказка)*. **6.** Кветка пакуль цвіце, да той пары і ... радуе *(прыказка)*. **7.** Дзявочы век як макаў ... *(прыказка)*. **8.** Кветкі, што дзеці: ... любяць *(руская прыказка)*. **10.** Хлусня па-сабачы. **13.** ... з вадою, красавік з травою, а май з кветкамі *(прыказка)*. **15.** З цяжкое вандроўкі \\ і пёкся, і мок – \\ да вокан сяброўкі \\ імчыць ... *(з верша П. Шруба)*. 18. «Цераз плот – ... \\ Расце кусцік мяты. \\ А хто любіў ды пакінуў – \\ Каб адсохлі пяты» *(прыпеўка)*. **19.** «Мужчыны дораць кветкі жонкам у двух выпадках: 8-га Сакавіка і калі ходзяць ...» *(афарызм невядомага аўтара)*. **22.** «Не губляйце пачуццё гумару: гумар для чалавека тое ж самае, што ... для ружы» *(афарызм Д. Голсуарсі)*. **23.** «Смех – гэта ..., якой вымушаны скарыцца вялікія гэтага свету» *(афарызм Э. Заля)*. **24.** «Нашы ... хварсуны, \\ На сямёх адны штаны. \\ У ... збіраюцца, \\ За штаны ругаюцца» *(прыпеўка)*. **25.** Калючы ёрш, ды ... з яго смачная *(прыказка)*. **27.** Нотны знак.

**Адказы:**

**Па гарызанталі:**
**1.** Маладзец. **4.** Крапіва. **8.** Дата. **9.** Якуб. **11.** Сланечнік. **12.** Ліст. **14.** Смех. **16.** Пах. **17.** Шып. **20.** Арка. **21.** Скол. **26.** Пасніцтва. **28.** Душа. **29.** Рыба. **30.** Чабарок. 31. Прыказка.

**Па вертыкалі:**
**2.** Лета. **3.** Зямля. **5.** Адзін. **6.** Вока. **7.** Цвет. **8.** Догляд. **10.** Брахня. **13.** Сакавік. **15.** Матылёк. **18.** Агарод. **19.** Налева. **22.** Водар. **23.** Сіла. **24.** Сваты. **25.** Юшка. **27.** Дыез.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ






Мо тыя дзяўчаты купаюцца ў шчасці,
Якія жывуць ля вайсковае часці?..

* * *

На моду лепш не траціць асігнацый:
За ёй, нібы за зайцам, не угнацца!

* * *

Любоўны трохкутнік сямейнае кола
Парве, калі тое трымаецца квола.

* * *

Быў кавалерам хоць актыўным,
Але, на жаль, неперспектыўным.

* * *

Калі для жонкі гардэроб, нібыта лекі,
То эканоміць на здароўі – проста здзекі!

* * *

Усякую красуню-прыму
Разгледзець хочацца без грыму.

* * *

Начальнік, падкраўшыся ўпотай,
Застукаў мяне... за работай.

* * *

У меру стараўся, ліслівіў – не ў меру:
Вось так забяспечыў пасаду й кар'еру.

* * *

Перад шлюбам я добра нявесту праверыў:
У кватэры паклеілі разам шпалеры.

* * *

Ці дараваць мне, рашаеш сама ты,
Нават тады, калі невінаваты.

**Алесь КОРНЕЎ,**
*г. Баранавічы.*




# МІСТЫКА

*Апавяданне*

Стаяла цёплая ліпеньская ноч. Неба было яснае, поўня і зоркі асвятлялі лясную дарогу, па якой крочыў Яўген. Ён вяртаўся з дыскатэкі, што праводзілася ў суседняй вёсцы кожныя выходныя. Хлопец прайшоў ужо палову дарогі, і далей шлях да ягонай вёскі ляжаў паміж двух могілак: новых і старых. Настрой быў прыўзняты — Святлана, якая яму вельмі падабалася, упершыню дазволіла правесці сябе да хаты ды пацалаваць. У думках Яўген ужо кахаўся з дзяўчынай, дарыў ёй кветкі і збіраўся ў сваты.

Але з прыемных мараў у рэальнасць хлопца вярнула «нешта», якое рухалася насустрач. Яўген не быў баязліўцам, таму старанна пачаў углядацца ў цемру. Адлегласць між імі скарачалася, і хлопец убачыў, што на яго імчыць лось.

— Сахаты! Зараз зашыбе мяне! — з гэтымі словамі Яўген кінуўся ў бок новых могілак.

Але па дарозе спатыкнуўся аб корч ды зваліўся ў нейкую яміну. Ён не паспеў яшчэ сцяміць, што гэта свежавыкапаная магіла, як у рэбры раптоўна ўваткнулася штосьці цвёрдае. Хлопец пачаў абмацваць вакол сябе: рогі, поўсць, капыты...

«Чорт!» — маланкай пранеслася ў галаве.

Імгненна Яўген ускочыў на ногі і пачаў хутка хрысціцца ды паўтараць:

— Божухна, памілуй! Божухна, памілуй! Божухна, памілуй!

— Бе-е-е-е! — пачулася ў адказ на яго малітоўныя заклікі.

Вочы звыклі да цемры, і хлопец убачыў побач з сабой... казла.

— А ліха цябе бяры! — закрычаў ён. — Я са страху ледзь Богу душу не аддаў! — потым крыху памаўчаў і дадаў: — Як выбірацца будзем, га?

І першае, што Яўген паспрабаваў зрабіць, гэта залезці на спіну казла. Але жывёле не спадабалася перспектыва быць трамплінам для раптоўнага госця, таму казёл скінуў хлопца з сябе. Раптоўна Яўген пачуў нейкае бразганне з боку дарогі і ўзрадавана прамовіў:

— Гэта ж дзядзька Сцяпан вяртаецца з раённага цэнтра, куды вазіў малако на перапрацоўку! Ён мяне і выратуе з гэтай пасткі!

Хлопец закрычаў, што ёсць моцы:

— Дзядзька Сцяпан! Гэта Яўген, сябар вашага сына Рамана, выцягніце мяне!

Мужчына спыніў каня і адазваўся:

— Яўген, ты дзе?

— Я зваліўся ў магілу! Дапамажыце вылезці! — пачулася ў адказ.

Сцяпан узяў з сабой лейцы і пайшоў на голас хлопца. Па дарозе ён яшчэ раз удакладніў:

— Ты Васілёў сын?

— Так! Менавіта яго!

Падышоўшы да магілы, Сцяпан прывязаў адзін канец лейцаў да дрэва, а другі кінуў у магілу. Яўгену ж шкада стала казла, хлопец адзін канец прывязаў за рогі, а другі намятаў на руку і сказаў:

— Давай, дзядзька, я гатовы!

Той пачаў цягнуць, але раптам убачыў, што замест Яўгена з яміны вылазіць нешта рагатае і кудлатае. Ад нечаканасці і жаху мужчына кінуў лейцы, зваліўся на спіну, перавярнуўся і прапоўз некалькі метраў на кукішках.

— Ратуй, Божа! — з гэтымі словамі ён ускочыў на ногі, куляй паляцеў да свайго каня, секанулў яго пугай і панёсся ў бок сваёй вёскі.

Яўген неяк сам па лейцах выбраўся з магілы і пайшоў дамоў спаць.

Раніцай, калі хлопец яшчэ быў у ложку, у дзверы пастукалі. На парозе з'явіўся дзядзька Сцяпан.

— Яўген, скажы мне, калі ласка, — пачаў ён асцярожна, — дзе ты правёў гэтую ноч?

Хлопец здзіўлена паглядзеў на Сцяпана і вырашыў пажартаваць:

— Я адпачываў і бачыў у снах прыгожых дзяўчат.

Сцяпан таптаўся ў пакоі, быццам хацеў штосьці ўдакладніць, але баяўся і саромеўся.

— У вас здарылася нешта? — спытаў хлопец.

Сцяпан расказаў яму пра здарэнне на могілках. Што сустрэў сапраўднага чорта, які прыкінуўся Яўгенам. Потым памаўчаў крыху, уздыхнуў і прамовіў:

— Вось і не вер у містыку!

Хутка ўся вёска ведала пра адважнага Сцяпана, якога ледзь сам чорт у магілу не загнаў! А Яўген толькі хадзіў ды пасмейваўся. Містычную легенду так проста знішчаць нельга!

**Даслала Валянціна ХАЛЕЦКАЯ,**
*г. Гомель.*




**Астап ВІШНЯ**




Што гэта з нашым Харкавам здарылася, ніякага ладу з ім няма! Ідзеш па вуліцы, а табе з усіх агароджаў, з усіх афішных слупоў у вочы так і скача:

*«Палавая праблема».*
*«Таямніцы кахання».*
*«Свабоднае каханне».*
*«Гігіена палавога жыцця».*
*«Святло і цені палавой праблемы».*
*«Гігіена шлюбу».*

І маскоўскія, і ленінградскія, і мясцовыя, і прафесары, і дактары медыцыны, і проста «вядомыя» лекары захапілі Харкаў «палавой праблемай», што ні праехаць, ні прайсці... Так, што хоць кідай усё, сядай і глядзі на палавую праблему, вышуквай там у ёй «святло» і «цені»... І гэта амаль штодзённа... То ў драме, то ў кнігазборніку, то ў «Місуры». Няўжо гэта такое надзённае і вострае, што кожнаму грамадзяніну абавязкова трэба там пабываць?

Ну, ёсць гэтая «палавая праблема», ёсць у ёй законы ўсялякія, але злітуйцеся над маёй душой: навошта ж да непрытомнасці?.. І хоць бы табе адзін «вядомы» лекар прыехаў ды аб пасяўной кампаніі прачытаў!.. Не цікава? Дык можна ж сумясціць... Можна ўзяць такую, да прыкладу, тэму: «Палавая праблема і пасяўная кампанія». І цікава, і карысна.

Між іншым, казаў мне калісьці Змітро Фёдаравіч, селянін з Пасек, дай Бог яму здароўя: «Вось як пацягаеш, — гаворыць, — касу з чатырох гадзін раніцы да дзевяці гадзін вечара, дык так спіш, быццам тваю палавую праблему мышы ад'елі... Ні «святла» на ёй, ні «ценю»...»

Вось я і думаю, а што калі б лектараў і слухачоў прыпаяць дні па два за сеялкай пабегаць або ў кацельным цэху гадзін па восем пакляпаць, ведалі б яны тады, што за штука «Тайны кахання» і «Гігіена палавога жыцця».

**Пераклад з украінскай Міхася СЛІВЫ.**

# Анекдоты

Сябры вяртаюцца з вечарынкі.

— Глядзі, — кажа адзін, — а месячык квадратны!

— Ты моцна напіўся, ён — трохкутны, — пярэчыць другі.

— Не спрачайцеся, — супакойвае іх трэці сябар. — Вы абодва кажаце праўду: адзін месячык квадратны, а другі — трохкутны.

* * *

На пікніку:

— Ды не, дарагая, трава зусім не сырая. Проста ты села на бульбяны салат пад маянэзам...

* * *

— Наш дзядуля не вельмі раззлаваўся, калі яго правяралі на мытні?

— Наадварот! Бо калі яго правяралі, то знайшліся ягоныя акуляры, якія ён згубіў тыдзень таму.



* * *

Расказвае стары боцман:

— Непадалёку ад Бярмудскага трохкутніка на наш карабель абрынулася велізарная хваля з дзесяціпавярховы дом! Ні адна душа не выратавалася!

— Як, а вы?

— Я ў гэты час быў ужо на пенсіі...

* * *

У кіназале.

— Здыміце, калі ласка, капялюш! Я заплаціў за білет дваццаць крон і нічога не бачу: замест экрана — ваш капялюш.

— А я заплаціў за капялюш сто дваццаць крон і хачу, каб яго ўсе бачылі. Мне за яго не сорамна!




**Пераклад з чэшскай Міхася СЛІВЫ.**




## Мурка

Трохгадовы Алесік назіраў, як акацілася котка. Раніцай малога адвялі ў дзіцячы садок, дзе ён пахваліўся сябрам:

– А наша Мурка знесла чатырох кацянят!



## Пажару няма

Бабуля загаварылася з чатырохгадовым унукам Арцёмкам ды зусім забылася, што на пліце смажыцца бульба.

– Вой, мая бульба гарыць! – залямантавала жанчына і пабегла на кухню. За ёй паспяшаўся і Арцёмка. Ён агледзеў усё навакол і спытаў:

– Чаго ты, бабуля, так усхвалявалася? Ніякага ж пажару няма!



**Даслала Валянціна ХАЛЕЦКАЯ,**
*г. Гомель.*

## Не ўключай

– Дзядуля, а можна мне паглядзець тэлевізар? – пытаецца маленькі Юрасік.

– Канешне! – адказвае дзед. – Толькі не ўключай яго...



**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г.п. Уваравічы.*

## Істотнае адрозненне

Суседзі пытаюцца ў чатырохгадовай Алесі:

– Як ты адрозніваеш сваіх братоў-блізнят?

– Вельмі проста, – адказвае малая. – Аднаго завуць Макар, а другога – Данік!



**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

16+

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс

№ 7 (1546), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 07.07.2017. Фармат 60х84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. . Тыраж 860 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

## «Вожыкаўскія плакаты»

Алег КАРПОВІЧ.



**На радасць і сабе і блізкім**
**Аформіць не забудзь падпіску!**

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2017 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 4,00 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,20 рублёў,
індэкс 748442, цана 11,30 рублёў,
індэкс 01381, цана 9,00 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

